Год выдавецтва II. ЦАНА НУМАРУ 30 гр.

# ПРАВАСЛАЎНАЯ БЕЛАРУСЬ

Царкоўна-грамадская і палітычная часопісь.
(Орган Праваслаўнага Беларускага Дэмократычнага Аб'яднаньня).
(Выходзіць 3 разы ў месяц)

№ 1 (7) 1 СТУДЗЕНЯ. 1928 г.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, Гэтманская вуліца № 4, кв. 16.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА: на 1 месяц: 90 гр. на 3 месяца: 2 зл. 50 гр.

ЦАНА АБВЕСТАК: на 1-шай старонцы 30 гр., пасярод тэксту 25 гр., на апошняй старонцы 20 гр, за рад. пэтыта.

**Рэдакцыя зьвяртае ўвагу падпішчыкаў і чытачоў на зьмену яе адрэсу (Гэтманская вул. 4—16).**

## З Новым Годам!

Рэдакцыя „Праваслаўнае Беларусі“ шчыра вітае сваіх супрацоўнікаў, падпішчыкаў і чытачоў з Новым Годам! Горача жадаем ім і ўсяму беларускаму грамадзянству ў новым годзе палепшаньня яго жыцьця, часта сумнага і гаротнага. Больш за ўсе жадаем пад'ёму яго духу, яго волі, энэргіі і сьведамасьці, бо ў гэтым яго ўнутраная сіла, ад якой залежыць і дабрабыт матэрыяльны.

Няхай жыве Беларускі Народ!

РЭДАКЦЫЯ.

# Блёк нацыянальных меньшасьцяў.

У папярэднім нумары «Праваслаўнай Беларусі» паведамлялася аб стварэньні „Цэнтральнага Беларускага Выбарнага Блёку“, у які аб'ядналіся ўсе істнуючыя беларускія партыі і безпартыйныя. Цяпер можам паведаміць сваіх чытачоў аб стварэньні Блёку Нацыянальных Меньшасьцяў, падобнаму да таго, які йшоў пры выбарах у 1922 годзе пад № 16.

У гэты блёк, апрача беларусаў, увашлі: украінцы, літоўцы, немцы і жыды. З тых нацыянальнасьцяў, якія былі ў прошлы раз, пакуль што не ўвайшлі расейцы. Перэшкаджаюць ім часьцінай спрэчкі з украінцамі, а часткай і сваі ўнутраныя нелады. Але-ж астатнія перагаворы яшчэ ня спынены і, можа стацца, яны ўвайдуць у Блёк, што прынцыпова было б пажадана з пункту гледжаньня ідэі аб'яднаньня ўсіх меншасьцяў, асабліва славянскіх. З погляду чыста практычнага ўваход іх ня мае вялікага значэньня і мы ня ўважаем, што гэта дало-б Блёку шмат новых галасоў, бо ўплывы іх арганізацыяў, і то не вялічкія, маюцца толькі па гарадох і дужа мала па вёсках. Затое, па нашых абшарах уваходзяць у Блёк літвіны, якія у той раз байкатавалі Сойм і ня йшлі на выбары. Так сама і на Украіне пайдуць на выбары ўкраінцы-галічане, якія так сама ў 1922 годзе байкатавалі Сойм. Такі склад ныняшняга выбарната Блёку нацыанальных меншасьцяў.

Стварэньне гэтага Блёку трэба ўважаць за дужа важны пасьпех у нашай выбарнай справе. Аб значэньні блёку, аб яго пажаданасьці мы ўжо гаварылі ў адным з папярэдніх нумароў нашае часопісі. Напомнім тут ізноў, што гэтага блёку перад усім вымагае ад нас тая „ардынацыя выборча“, паводле якой будуць прахадзіць выбары. Паводле гэтай ардынацыі, напрыклад, права на „лісту панствовую“, — гэта ёсьць галоўны, аснаўны сьпісак, які можа падаць кожная партыя, апрача сьпіскаў акружных і ваяводскіх (у Сэнаце),—можа мець толькі такая партыя, якая правяла сваіх кандыдатаў ня менш як па шасьцём вакругам. На нашым беларускім абшары мы маем дзевяць акругоў. Пры найбольшай няўдачы (як напрыклад было ў прошлы раз у Вільні нават і з блёкам, але калі падзяліліся жыды) бяз блёку можна ня правясьці сваіх кандыдатаў па шасьці вакругох. Тады-б мы беларусы ня толькі праігралі-бы на гэтых акругох, але нават не маглі-б скарыстаць і „лісты паньствовай“, а з яе можна мець прыблізна аднаго пасла на кожныя 4—5, выбарных з вакругоў. Адсюль відаць, як важна для нас тое, каб мы ішлі ў блёку і гэтакім чынам правялі як найбольш людзей з вакругоў; тады можам больш узяць і з „лісты паньствовай“. Ці маглі-б мы гэта зрабіць без Блёку?

Трэба яшчэ заўважыць і тое, што пры падачы „паньствовай лісты“ трэба пад яе сабраць ня менш 1000 падпісаў і ня менш чым ад двух вакругоў: па 500 з кожнага. Ці-ж гэта лёгка зрабіць? А пры тым кожны час можна «уневажніць» некалькі падпісаў,— і „ліста“

прапала. Паводле той-жа ардынацыі „ліста паньствова“ можа быць падпісана замест 1000 грамадзян 5-цьцю быўшымі паслам і ці сэнатарамі. У нас так мала асталося паслоў і сэнатараў, што пры разьбежнасьці мненьняў, ці палітычных партыяў, не заўсёды можна знайсьці патрэбнай колькасьці паслоў, а пры блёку гэта зрабіць зусім лёгка!

Тое самае трэба сказаць і пра штучны падзел вакругоў, дзеля чаго без узаемнага з іншымі нацыянальнасьцямі падтрыманьня мы не маглі-б нікога правясьці на некаторых вакругах. Так, напрыклад, у прошлы раз Жыды самі правалiліся у Вільні, але падтрымалі нашыя мандаты ў Беластоку, Востраве, Пінску. За тое нашымі галасамі прайшоў адзін Жыд па Навагрудку.

Пры блёкавай сыстэме куды спрытней вядзецца і агітацыя. У адным мейсцы мае найлепшы ўплыў адна нацыянальнась, у другім другая; там адна партыя, а там іншая. Бяз Блёку ўсюды могуць разбіцца галасы, а пры аб'яднаньні кожная партыя ці нацыянальнасьць **працуе на карысьць усяго Блёку**.

Некатарые ня ахвотна згаджаюццаісьці ў блёк за тое, што, як ім здаецца, гэта іх чымсь абавязвае перад іншымі нацыянальнасьцямі. Пры гэтым да некаторых з гэтых нацыянальнасьцяў некатарыя беларусы ня маюць ніякіх сымпатыяў.

На гэта адкажам, што толькі беларусоў, уваходзячых у блёк, мы ўзаёмна абавязываем нейкай праграмай — мінімум, бо і далей нам прыдзеццаісьці ўва ўсім разам. З іншымі-ж нацыянальнасьцямі мы ўваходзім ува блёк толькі **тэхнічна**. Гэта значыць — толькі дзеля найвыгаднейшага правядзеньня ў Сойм і Сэнат сваіх людзей, — і ўсё. Коньчацца выбары, і мы ізноў вольны і незалежны адзін ад другога.

Хоць пры гэтым трэба заўважыць і тое, што і ў самым палажэньні, лёсе нацыянальных меньшасьцяў у Польшчы, дужа ёсьць супольнага, дзеля чаго рэдка ў Сойме і Сэнаце дасюль бывала так, што меншасьці галасавалі ня разам.

Гэта так сама ёсьць довадам таго, як патрэбны нам блёк: ён ужо наўперад нібы гварантуе нам узаёмнае падтрыманьне ў парлямэнтарнай працы, а нам гэта падтрыманьне і там будзе патрэбна, бо як вядома, самі адны большасьці мы там мець ня можам. **В. Васілевіч.**

---

## ДА ГР. ПАДПІШЧЫКАЎ.

Рэдакцыя просіць усіх, спаўчуваючых нашай часопісі, прысылаць карэспандэнцыі аб царкоўным, палітычным, грамадзкім і культурным жыцьці, аб незаконных чынах урадаў, а такжа наагул аб жыцьці нашых мясцовасьцяў.

У Рэдакцыю паступаюць ведамасьці аб тым, што шмат нашых чытачоў не атрымоўваюць акуратна нашай часопісі Рэдакцыя просіць чытачоў аб каждым неатрыманьні паведамляць яе, каб можна было выправіць памылкі пошты.

**Рэдакцыя.**

# Плятформа

## Беларускага Цэнтральнага Аб'яднанага Выбарнага Камітэту Блёку Нацыянальных Меншасьцяў,

прынятая на Зьездзе прадстаўнікоў беларускіх партыяў і арганізацыяў, які адбыўся 28 сьнежня 1927 г. ў Вільні.

Прыступаючы да працы арганізацыі выбараў у другі Сойм і Сэнат Польскае Рэспублікі і творачы тэхнічны блёк з іншымі нацыянальнымі меншасьцямі, Беларускі Аб'яднаны Выбарны Камітэт для ўсіх беларускіх партыяў, уваходзячых у гэтае аб'яднаньне, прыймае наступную плятформу, як праграму — мінімум, на якой павінны стаяць яго будучыя прадстаўнікі ў Сойме і Сэнаце.

Абавязкам кожнага Беларуса, які пройдзе ад гэтага Камітэту ў будучыя Польскія парлямэнтарныя Палаты, павінна быць:

## I. Абарона агульна-палітычных правоў Бел. Народу.

Камітэт уважае, што палітычным ідэалам кожнага народу ёсьць яго поўная палітычная і культурная незалежнасьць, а сьвятым палітычным правам павінна быць права свабоднага самастанаўленьня аб сваей палітычнай і нацыянальнай долі.

Імкнучыся да зьдзейсьненьня гэтага ідэалу і гэтага права, як сваей канцавой мэты, у сучасны момант, як народ складаючы частку тэрыторыі насяленьня Польскае Рэспублікі, Беларускі Народ, жывучы ў Польскай дзяржаве павінен карыстацца тою поўнай свабодаю і роўнасьцю з другімі насяляючымі Польшчу народнасьцямі, якія ўстаноўлены Конституцыяй Польскае Рэспублікі.

Гваранцыяй гэтай свабоды Камітэт уважае:

а) дапушчэньне Беларусаў на абшарах беларускіх земляў у Польшчы бяз усялякіх абмежаваньняў на адміністрацыйныя ўрады ўсіх інстанцыяў, б) поўныя правы беларускае мовы ў адміністрацыі і судох, в) поўную свабоду грамадзкай, культурнай і эканамічнай арганізацыі, г) свабоду слова, сходаў, друку, д) выдзяленьне беларускіх часьцін з польскіх адміністрацыйных вакругоў, куды яны далучаны з асобымі палітычнымі мэтамі, е) свабода выбараў у самаўрады, ж) незалежнасьць выбарных міравых судзьдзяў, з) акружныя суды прысяжных, і) скасаваньне даразных (палявых) судоў і кары сьмерці.

**У імя гэтых правоў і гэтай свабоды Камітэт запаведуе сваім выбарным людзям парлямэнтарную барацьбу з усімі адміністрацыйнымі гвалтамі і судовай аднастароннасьцяй і несправядлівасьцямі.**

## II. Змаганьне за зямлю і абарону лясоў і прыродных багацьцяў.

Падставай зямельнай рэформы Камітэт уважае:

Зямля працоўнаму народу! Зямля ня можа служыць мэтам польскай калёнізацыі на беларускіх абшарах. Ля-

сы і іншыя прыродныя багацьці павінны ісьці на адбудову і палепшаньне дабрабыту Беларускага Народу.

Гваранцыяй гэтага Камітэт уважае:

а) перадачу зямель, лясоў і прыродных багацьцяў у распараджэньне мясцовых самаўрадаў; б) хуччэйшае правядзеньне ў жыцьцё зямельнай рэформы: падзел зямлі паміж працоўнымі масамі бяз выкупу і на кошт скарбу.

**Увага**. Камітэт дае свабоду партыям, увайходзячым у склад Аб'яднанага Камітэту, справу права ўласнасьці на зямлю, ці сацыялістычнага карыстаньня ею рашаць паводле сваіх партыйных праграмаў.

**У імя гэтых асноў Камітэт запаведуе сваім выбарным людзям барацьбу з праявамі абшарніцкага ўціску малазямельных і бедных з каленізацыяй беларускіх зямель асаднікамі, з аднабокай, рабунковай гаспадаркай ураду ў беларускіх лясох.**

## III. Змаганьне за правы і інтарэсы работнікаў.

Камітэт уважае права працы адным з першых і найважнейшых правоў кожнага грамадзяніна Рэспублікі. Дзяржаўныя законы павінны абараняць кожнага работніка ад уціску і эксплёатацыі капіталу і забязпечваць яму магчымасьць працы і ўтрыманьне у старасьці, ці пры утраце працаспасобнасьці.

Гваранцыяй гэтых правоў Камітэт уважае: а) увядзеньне 8-гадзіннага рабочага дня, як рабочай нормы, б) свабоду рабочых і прафэсыянальных арганізацыяў, в) дзяржаўная, ці на кошт прадпрыемства страхоўка работнікаў ад хваробы, калецтва і на старасьць, г) ахрану працы малалетніх і жанчын, д) зьмяншэньне рабочага дня ў прадпрыемствах шкодных для здароўя, е) мінімум заработнае платы, ж) выдачу безработным запамогаў.

**У імя гэтых правоў і свабод Камітэт запаведуе сваім выбарным людзям весьці парлямэнтарную барацьбу з усялякімі праявамі ўціску рабочага люду.**

## IV. Змаганьне за зьмяншэньне падаткаў і палепшаньне эканаміч. жыцьця.

Сродкамі для палепшаньня эканамічнага жыцьця Камітэт уважае: а) правядзеньне ў зямельнай рэформе камасацыі і хутарскога гаспадарства, б) у лясной рэформе — ўжываньне лясоў перадусім на адбудову зьнішчаных вайной гаспадарак, в) танныя крэдыты для працоўнага народу на палепшаньне яго гаспадарак, г) памяншаньне падаткаў ад малазямельных і бедных, д) спыненьне падаткаў ідучых на мілітарызацыю і вялікадзяржаўныя мэты, е) дзяржаўныя запамогі ў справе развіцьця коопэрацыі, ж) у мэтах пашырэньня гаспадарчай культуры імкнуцца да адчыненьня магчыма большай лічбы гаспадарчых школаў.

**У імя гэтай мэты К-т запаведуе сваім выбарным людзям парлямэнтарную барацьбу за зьмяншэньне падаткаў з бяднейшага працоўнага народу.**

## V. Абарона роднай школы.

Свабоднае ўжываньне роднай мовы ў поўнай меры як у прыватным, так і грамадзка-палітычным жыцьці, Камітэт таксама ўважае за найважнейшае і сьвятое права кожнага грамадзяніна.

Гваранцыей гэтага права К-т уважае: а) увядзеньне беларускай мовы ў школы ўсіх ступеняў, б) неадкладнае адчыненьне патрэбнай паводле заяў колькасьці беларускіх школаў, в) адчыненьне беларускіх вучыцельскіх сэмінарыяў, г) навучэньне ў ніжэй-

шай школе павінна адбывацца на роднай мове, д) утварэньне пры міністэрстве асьветы асобага аддзелу з правам аўтаномнага кіраваньня беларускай асьветай, е) утварэньне ў галоўных беларускіх гарадох беларускіх школьных інспэктаратаў.

**У імя гэтых правоў Камітэт запаведуе сваім выбарным людзям бязлітасную парлямэнтарную барацьбу за родную школу і са штучнай палянізацыяй беларускіх дзяцей праз польскую ўрадаваю школу.**

## VI. Абарона поўнае свабоды ўсіх рэлігіяў.

Камітэт уважае рэлігію і рэлігійныя пераконаньні за найсьвяцейшае права ўнутраняга самаакрэсьленьня кожнага чалавека, дзеля чаго стаіць за поўную свабоду рэлігіяў і незалежнасьць ад дзяржавы рэлігійных арганізацыяў, за свабоду іх унутранняга ўстройства паводле іх рэлігійных правілаў і свабоднае выкананьне рэлігійных абрадаў і богаслужэньня.

Гарантыяй гэтай свабоды Камітэт уважае:

Поўнае аддзяленьне царквы (касьцёла) ад дзяржавы, якое аднак жа ня выключае магчымасьці свабоднай паміж імі ўмовы (Conkordat), рэлігійныя арганізацыі карыстаюцца правам юрыдычнай асобы. Увядзеньне ўва ўсім царкоўным і касьцельным рэлігійным жыцьці беларускай мовы.

**У імя гэтай свабоды і гэтых правоў Камітэт запаведуе сваім выбарным людзям барацьбу з усялякімі рэлігійнымі ўціскамі, з ужываньнем рэлігійных арганізацыяў для палітычных мэтаў з фаварызаваньнем асобных рэлігійных арганізацыяў асобных найвышэйшых прадстаўнікоў і з уплывам чужой нацыянальнасьці ў рэлігійным жыцьці Беларусаў.**

У В А Г А. Камітэт дае поўную свабоду прадстаўнікам Б. Х. Д. у рэлігійным пытаньні трымацца сваей праграмы.

## VII. Змаганьне за усё, што вядзе да нацыанальнага, палітычнага і эканамічнага вызваленьня Беларускага Народу і яго лепшай будучыні.

**Беларусы працоўныя, Сяляне і Работнікі! У дзень 4-га і 11 сакавіка 1928 году пакажыце сваю сілу і ўсе, як адзін ідзеце і аддайце свой голас за сьпісак Беларускага Аб'яднанага Выбарнага Камітэту блёку нацыянальных меншасьцяў!**

**Беларускі Цэнтральны Аб'яднаны Выбарны Камітэт блёку нацыянальных меншасьцяў, — Вільня, Вострабрамская 8—1**

Вільня, дня 28 сьнежня 1927 году

---

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЬПЕЛАСЬЦЬ.

У кожнай дэмократычнай дзяржаве, паводле ідэі дэмократыі, дзяржаўным гаспадаром зьяўляецца сам народ (грэцк. „дэмос").

Праўда, у большасьці выпадкаў безпасярэдня сам народ ня кіруе дзяржаўным жыцьцем. Толькі ў неякіх дэмократычных дзяржавах у развязаньні найгалоўнейшых пытаньняў, паўстаючых у дзяржаўным жыцьці, урад ці парлямэнт стасуецца да так званага рэфэрэндуму, г. ё., да вырашэньня паўстаўшых пытаньняў самым народам праз бязпасярэдняе галасаваньне. Так, напрыклад, нядаўна было ў Немцаў, калі там паўстала пытаньне аб тым, ці зьвяртаць нямецкай царскай фаміліі яе маемасьці, ці не.

У большасьці выпадкаў народ прымае ўдзел у кіраваньні дзяржаўным жыцьцём праз сваіх прадстаўнікоў, каторых ён выбірае ў заканадаўчыя ўстановы. А апошнія або выдзяляюць з сябе, або даюць сваю згоду на вызначаных праз дзяржаўную галаву—прэзыдэнта прадстаўнікоў выканаўчага ўраду.

Ужо з гэтага відаць, якое вялізарнае значэньне ў кожнай дэмократычнай дзяржаве мае заканадаўчае прадстаўніцтва. Яно зьяўляецца фактычным гаспадаром усей дзяржавы, кіраўніком яго палітычнага і соцыяльна-эканамічнага жыцьця. Яно выдае законы, зьмяняе іх, пастаўляе выканаўчую ўладу для правядзеньня іх у жыцьцё, кантралюе яе дзеяльнасьць і г. д. Ведама, што адпаведна з гэтакім значэньнем выканаўчых уладаў павінны складацца да іх адносіны ўсяго дзяржаўнага народу. У інтэрэсах самаго народу, каб і ў заканадаўчых установах і ў выканаўчым урадзе былі яго найлепшыя, найздальнейшыя прадстаўнікі, якія ня толькі ведалі-б яго патрэбы, жаданьні і жыцьцёвыя імкненьні, але маглі-бы знайсьці і той шлях, ідучы якім, яны маглі-бы задаволіць усе палітычныя і соцыяльныя патрэбы.

Але далека ня заўсёды і ня ўвесь народ разумее агульную павагу як самага прадстаўніцтва, так і выбараў да яго. Аб гэтым сьведчыць такое зьявішча, як ўстрыманьне пэўнае часткі народу ад галасаваньня пры выбарах у заканадаўчыя ўстановы. Нават і ў такіх дзяржавах як Швайцарыя, Англія, Францыя у дзяржаўным жыцьці каторых ужо даўно пануе дэмократычны ўстрой, пры кожных выбарах пэўная частка выбаршчыкоў устрымліваецца ад выкананьня сваіх грамадзкіх абавязкаў. Пры чым належыць адзначыць, што ў балей культурных і развітых народаў працэнт ўстрымліваючыхся ад выбараў меншы, чым у меньш культурных і наадварот, чым ніжэй народ стаіць у культуральна-палітычным развіцьці, тым большы працэнт выбаршчыкаў ня зьяўляецца да выбарных урнаў, ці як цяпер кажуць, тым большы *выбарны абсэнтызм.*

Гэты абсэнтызм, ці няпрыйманьне ўдзелу ў выбарах, зьяўляецца вялікім злом для дзяржаўнага і грамадзянскага жыцьця народу, бо ён штучна клоніць перавагу на бок тых, якія разумеюць значэньне выбарнага прадстаўніцтва і з гэткага карыстаюць. Такім спосабам тварыцца крывое, непраўдзівае люстра палітычнага жыцьця народу.

Калі мы наагул павінны прызнаць абсэнтызм шкадлівым для інтэрэсаў дэмакратыі, то тым з большым націскам павінны падкрэсліць гэтую шкоду для нацыянальных меншасьцяў. Для іх жыцьця шкада абсэнтызму яшчэ больш павялічываецца і вырастае ў вялізарную нябяспеку.

Патрэба наагул адмеціць, што ў тых дзяржавах, у склад якіх уваходзіць некалькі нацыянальнасьцяў, большая нацыянальнасьць у бальшасьці выпадкаў, калі ня заўсёды, імкнецца да таго, каб толькі ёй адной кіраваць дзяржаўным жыцьцём. З гэтай мэтай яна стараецца адсунуць ад дзяржаўнага руля прадстаўнікаў нацыянальных меншасьцяў і найперш за ўсё—ад прадстаўніцтва ў заканадаўчую ўладу. Гэта асабліва патрэбна сказаць аб дзяржаўным жыцьці Польшчы, дзе лік нацыянальных меншасьцяў сягае амаль што ня да 40% усяго насяленьня і неякія з іх, як Беларусы і Украінцы, маюць сваю тэрыторыю.

Польскае грамадзянства на першых парах сваго дзяржаўнага жыцьця ня хацела нават узнаваць самаго існаваньня гэтых меншасьцяў, асабліва тэрытарыяльна. Толькі шляхам барацьбы Беларусы і Украінцы дабіліся прызнаньня свайго існаваньня. Але прызнаўшы фактычнае існаваньне Беларускіх і Украінскіх меньшасьцяў, польскае грамадзянства ня згаджаецца і, думаю, ніколі ня згадзіцца дабравольна аддаць ім тыя палітычныя і грамадзкія правы, з якіх, паводле Канстытуцыі, павінен карыстаць кожны грамадзянін бяз розьніцы нацыянальнасьці. Іх можна дабіцца толькі шляхам няўстаннага змаганьня.

І вось адсюль выяўляецца ўсё вялізарнае значэньне прадстаўніцтва нацыянальных меньшасьцяў у заканадаўчых установах Польшчы. Адзіным з найгалаўнейшых, а можа і самым магутным спосабам змаганьня за свае нацыянальныя і соцыяльныя правы зьяўляецца Соймовая трыбуна. З яе мы можам на ўвесь сьвет праз сваіх прадстаўнікоў гаварыць і заяуляць аб сваіх патрэбах, імкненьнях і дамаганьнях. Значыцца, каб з найбольшым пасьпехам вясьці змагань-

не за сваі правы, беларускі народ павінен у поўнай меры скарыстаць права выбараў, каб паслаць у заканадаўчыя установы найбольш і найздальнейшых сваіх прадстаўнікоў. Ні адзін выбаршчык, маючы права голасу, ня павінен устрымацца ад выпаўненьня свайго грамадзянскага абавязку. Усе, як адзін чалавек, як мужчыны, так і кабеты, павінны у дзень выбараў пайсьці да выбарнае урны і палажыць свой білецік за свайго беларускага прадстаўніка. Усе павінны памятаць, што выпаўняючы свой абавязак, яны працуюць ня толькі для палепшаньня сваей асабістай долі, свайго дабрабыту, але закладаюць фундамэнт лепшае будучыні дзеля сваіх дзяцей і для нацыянальнага і сацыяльнага адраджэньня усяго беларускага народу.

Цяжкая нядоля беларускага гаротнага жыцьця павінна ускалыхнуць нашу беззаботнасьць. Час ужо забыць прыкрываючае гэтую бяззаботнасьць, нярадлівасьць прыслоўе: „што усім, то і мне". Кожны павінен зразумець, што часта ад аднаго выбарнага білеціка залежыць лёс нашага прадстаўніка: ці будзе ён у Сойме, ці не. А калі так, дык ні адзін голас беларускі ня павінен прапасьці. Кожны беларус павінен палажыць яго за свайго прадстаўніка, ніякія прычыны ня павінны быць яму перашкодай да выпаўненьня свайго абавязку перад сваім беларускім народам.

Гэтым мы выявім сваю палітычную сьпеласьць.

**Пр. Л. Голад.**

## „Мітрапалічы блёк".

Мы ўжо не адзін раз на старонках сваей часопісі паказывалі, якое абурэньне выклікала сярод кол урадавых і прыўрадавых стварэньне блёка нацыянальных меньшасьцяў. Цяпер гэтыя колы напружываюць усе сілы, каб так ці інакай разбурыць гэты блёк, ці прынамсі адбіць ад яго хоць частку галасоў. У гэтых мэтах яны між іншым імкнуцца скарыстаць і царкву, дзеля чаго пры мітрапаліце Дзіанісы і ўтвараецца нейкі асобны яшчэ мітрапалічы „праваслаўны сьпісак". Першыя весткі аб гэтым сьпіску зьявіліся ў расейскай газэце „За Свабоду". У пятніцу і суботу (10—12 студня), як пісала газэта, у Варшаве ў пакоях мітрапаліта пад яго кіраўніцтвам адбывалася нарада, аб адносінах праваслаўнага духавенства да справы выбараў у Сойм і Сэнат. На гэтую нараду выклікана было з правінцыяў некалькі выдатнейшых прадстаўнікоў праваслаўнага духавенства, сярод якіх аказаўся і сьвяшчэньнік **А. Коўш** — той самы, які быў у месяцы студні 1927 г. пасаджаны ў турму ў справе „Грамады", а ў сакавіку выпушчаны пад каўцыю на свабоду.

На гэтай конфэрэнцыі пастаноўлена, што „**духавенства павінна ўвайсьці ў згоду з умеранымі беларускімі і ўкраінскімі групамі, стварыўшы з імі блёк.**

Намечаны быў рад упаўнамочаных па асобным районам, якія будуць весьці ўсю передвыбарную працу на мясцох. Намечаны сьпісак галоўных кандыдатаў гэтага блёку. Першым па сьпіску пастаноўлена паставіць **мітрапаліта Дзіанісыя**, за ім архімандрыта **Філіпа Марозава**, а за гэтым **А. Каўша**!

Трудна было-б і прыдумаць больш прыгожы букет.

Пасьля таго, да якога абніжанага становішча давёў праваслаўную царкву ў Польшчы **мітр. Дзіанісі**, няма ў нас сярод праваслаўных другога больш непапулярнага імя, як гэтае імя, якое па яго высокаму становішчу павінна было-б, наадварот, сьвяціць як нейкі „светільнік" на ўсю праваслаўную царкву.

Другое імя яшчэ гарэй. Гэта той самы архімандрыт **Філіп Марозаў**, знамяніты „беларус з валагоцкіх укаінцаў", знамяніты „пералёт", які ў 1924 годзе перарабіў Віленскую Праваслаўную Сэмінарыю на польскую гімназію, які ў 1925 годзе і сам пераляцеў у вунію, які ў працягу цэлага году з касьцельнай катэдры Аўгусьціанскіх муроў ганьбіў „так называемае правасла-

віе", які пасьля таго, як і ў вуніі яму ня павязло, вярнуўся ў гэтае самае праваславіе, прыняты быў мітр. Дыянісіям і зроблены „епархіальным міссіанерам", які ўлетку гэтага году на дэфэнзыўныя грошы пытаўся пры помачы бруковай газэткі „Злоты" („сребренникъ") разбіць беларуска-рускі блёк на выбарах у Віленскую раду! Адным словам імя дастойнае, каб паставіць радам з мітрапалітам „всея Польшы".

Далей мы бачым **Апаксандра Кяўсша**, сьвяшчэнніка Сьніпішкай царквы ў Вільні. Гэта „пералётства" для нас сталася неспадзяваным. Праўда, мы ад самага Коўша ведалі, што ён да „Грамады" не належыў. Яшчэ перад яго арэштам мы з ім вялі гутаркі аб стварэньні Беларускага Праваслаўнага Аб'яднаньня", да якога ён заўсёды выдаваў сябе прыхільным, хоць афіцыяльна і не ўвайшоў у яго па прычынам сваей падсуднасьці. Відаць гэтая падсуднасьць і змусіла яго шукаць прытулку больш прыхільнага да ўраду чым нашае „Праваслаўнае Аб'яднаньне; гэтая яго падсуднасьць змушае і нас замаўчаць аб ім.

Што-ж рабіць! Ня ўсім быць героямі.

Некалькі дзён спусьціўшы, ў газэтах зьявіліся весткі аб новай конфэрэнцыі прыхільнікаў мітрапалічага „праваслаўнага сьпіска". Зьявіліся і новыя весткі, што мітрапаліт Діонісі і Філіп Марозаў зьнялі свае кандыдатуры, замест таго сярод дзеячоў гэтага блёка „урадавага праваславія" явілася новая фігура новага пералёта... былога **сэнатара Назарэўскага**.

Сэнатар Назарэўскі быў адным з закладчыкаў нашага „Праваслаўнага Аб'яднаньня" і дзеля гэтага мы перад нашымі чытачамі павінны выясьніць гэтае яго пералётства.

Сэн. Назарэўскі ў працягу пяцёх гадоў працаваў разам з Беларускім Пасольскім Клюбам і хоць далёка не бяз закідаў, усё-ж нібы вытрымоўваў палітычную лінію, прынятую клюбам. Між іншым выдаваў ён сябе перад сябрамі за чалавека змагаючагася за свабоду царквы, за яе самастойнае, незалежнае ад палітычных і ўрадавых уплываў існаваньне, за яе саборны строй. Нейкія вывіхі ў старану ад гэтага кірунка тлумачыліса заўсёды як бы неабходнасьцю для яго падтрымліваць з урадавымі і царкоўнымі кругамі бліжэйшыя стасункі як прэзэсу камісіі на будоўлю царквы ў Баранавічах. Пасьля роспуску Сойму і Сэнату ўчасьцьце п. А. Назарэўскага ў Зьездзе радных, скліканым праз вядомага „дохтара" Паўлюкевіча, — учасьцьце дужа гарачае і шчырае, якое перайшло граніцы простага ўдзелу, як фахоўца, як раднага, паставіла ў яго былых сяброў пад сумленьне шчырасьць яго дагэташняга палітычнага кірунку: ці ня шукае былы сэнатар сабе нейкіх новых дарог і ці ня падгатаўляе сабе грунту у іншых партыях, больш блізкіх яму па душы.

Многа разоў зварачываліся да яго яго сябры, вымагаючы ад яго публічнага праз прэсу спраставаньня гэтых закідаў і выяўленьня яго запраўднай палітычнай і царкоўнай фізыономіі. Назарэўскі горача запэўняў нас у тым, што ён астаецца верным папярэдняму кірунку, але ... асьвядчаньня праз прэсу ня даваў.

Цяпер мімаволі паўстае думка аб тым, што гэта было ўнікаваньнем ад разрыву з Паўлюкевічам, бо іначай з якімі ён гэта „ўмяркаванымі беларускімі групамі", як піша „За Свабоду", пойдзе за мітрапалічы сьпісак, ці можа з Умястоўскім і краёўцамі?

Пажывем — пабачым.

У гэтым нумары чытачы нашы знойдуць пісьмо да рэдакцыі п. А. Назарэўскага, у якім ён тлумачыць свой выхад з партыі П. Б. Д. А. тым самым становішчам старшыні будаўлянага камітэту. Але ж п. А. Назарэўскі, вышаўшы з партыі, ня пакінуў зусім сваей палітычнай працы, а перайшоў у варожы абоз, які як раз і зарганізаваўся для адарваньня беларускіх і ўкраінскіх галасоў ад блёка нацыянальных меншасьцяў, чым-жа апраўдаць гэта? Напрасна думае п. Назарэўскі, што і ў мітрапалічым блёку ён здолее змагацца за свабоду царквы.

Там, гдзе у самай засадзе жыцьця царкоўнага палажаны сінадальны Кансісторскі строй, гдзе кожнае пастанаўленьне царкоўнае кантралюецца Міністэрствам Вызнань, там ня можа быць і мовы аб працы за свабоду царквы і за яе саборны строй. Мажна яшчэ паняволі падпарадкавацца нашай афіцы-

альнай іерархіі, можна яшчэ з ёй працаваць у чыста практычным жыцьці (як напрыклад, будова царквы — храма), а ісьці з ім і з рознымі Філіпамі Марозавымі тварыць адну палітыку — гэта ёсьць здрада ідэі яе свабоды, яе сабор-насьці, здрада царквы — народу, і мы верым, што ані адзін Беларус і не адзін праваслаўны, якім дорага яго царква і судзьба яго народу, за гэтым блёкам ня пойдзе.

**Саборанін.**

## Адказ мітрапаліта Дыанізыя мітрапаліту Сергію.

У прэсе (Утро №189, „За Свободу", № 295) наканец зьявіўся адказ мітр. Дыанісыя на запытаньне замясьціцеля мейсцаблюсьціцяля патрыяршага прастолу ў Маскве мітр. Сергія адносна дастварыўшыхся за гэтыя часы пераменаў ў устроі Прав. Царквы ў Польшчы. Успамінаю чытачам, што адзін раз падобны, але шмат болей падрабязовы адказ на запытаньне яшчэ пакойнага патрыярха Ціхана ўжо быў напісаны Свяц. Сынодам у Польшчы і зьмешчаны ў №№ 35—40 „Вестніка Праваслаўнай Мітраполіі" у Польшчы за 1924 г., але ён ня быў адасланы, так што для Маскоўскага Сыноду цяперашні адказ ёсьць першы.

Новы адказ у некалькі разоў меньшы, чым першы, але ніскольки ня менш, калі ня больш за першы, перапоўнены няпраўдаю і ліцамерыям, якія яскрава выяўляюцца і для незнаёмых са справай. Для ведаючага-ж праўдзівы сэнс справы, ўпрост становіцца немагчымым чытаць падобныя дакумэнты.

Дзеля таго, што галоўнай зьменай, стаўшайся за гэтыя часы ў Прав. Царкве ў Польшчы, зьяўляецца ўвядзеньне аўтокефальнага яе істнаваньня, дык на гэтым выключна пытаньні і пазастанаўліваецца „Адказ".

Я ня ведаю, што разумее мітр. Дыанізы, калі піша, што ўжо ў 1921 годзе ад самага Маскоўскага прастолу была надана часовая аўтокефалія ўсім царкоўным аб'яднаньням, пазбаўляным фізычнае магчымасьці знасіцца са Сьвят. Патрыяршым прастолам.

Як здаецца, тут маюцца на ўвазе „Пастановы Сьв. Патрыярха, Сьвяшч. Сыноду і Высшага Царкоўн. Савету Праваслаўнае Расейскае Царквы ад 10 лістападу 1920 году". Але там, як адмеціў і сам мітрапал. Дыанісый, гаворыцца аб **часовым** незалежным упраўленьні на выпадак зрыву адносінаў з Сьв. Патрыярхам, ці фактычнае пярэрвы яго дзеяльнасьці. Параграф 10-ы гэтае пастановы гаворыць: „Усе прынятыя на мясцох, згодна з гэтымі ўказаньнямі, меры, у дальшым часе, у выпадку ўзнавеньня цэнтральнае царкоўнае ўлады, павінна прадставіць на зацьвердженьне апошняй".

З гэтага відаць, што зусім праўдзіва, і кананічна адпаведна было тое, што пры фактычным разрыве адносінаў з маскоўскім патрыярхатам, Прав. Царква ў Польшчы мела права і павінна была часова кіравацца самастойна, але згодна з гэтай пастановай, у дальшым цягу раней, ці пазней патрэбна была даць адказ у тым, як працякала гэта царкоўнае ўпраўленьне ў адарванай эпархіі. Гэтага адказу і спужаўся мітр. Дыанісый і яго Сынод. За часы фактычнага аўтакефальнага кіраваньня ім і яго папярэднікам была зроблена столькі кананічных праванарушэньняў як высылка, ці затачэньне ў манастыр чатырох архіерэяў, выбраных народам і пастаўленых самым Патрыярхам, адмена саборнага ўстрою, каторы так старанна быў выпрацаваны на Маскоўскім Саборы, што дзейсна было чаго баяцца. Цікава, што са ўсіх Саборных пастановаў, неадменены толькі правілы бракаразводныя, якія надта спадабаліся, як прыносячыя вялізарны даход мітрапалітальнаму прастолу. Усё гэта пагражала пэўнаю царкоўнаю караю ад вышэйшай ўлады і адзіным сродкам пазбаўленьня ад яе было ўцяканьне з пад царкоўнае ўлады „любімае нашае мацяры" у незалежнае ад яе аўтакефальнае палажэньне. Гэтым імена і тлумачыцца далейшыя словы адказу „цэлы рад варункаў зрабіў уплыў на гэтае, каб імена ў тым напрамку шукаць развязаньня" і г. д.

Далей у адказе гаворыцца, што быццам правядзеньнем аўтакефаліі мелі на ўвазе: „змоцніць прававое палажэнь-

не Царквы ў Польскай Рэспубліцы". Як мітр. Дыанізы „змацняў" гэтае палажэньне, відаць з яго ўласнага мэмарыялу, які ён падаў у канцы 1925 году, калі гэта аўтакефалія ня толькі была праведзена, але некалькі разоў агалошана як некая царкоўная перамога. Вось што піша ў гэтым мэморыяле сам мітрапаліт: „Палажэньне Царквы ў дзяржаве ня можа лічыцца нармальным", „у маемасьцёвай дзядзіне правы праваслаўнай царквы ня прызнаюцца", „уся нярухомая маемасьць царквы фактычна канфіскавана", „міністэрства ня ўзнае права ўласнасьці нават на Цэркви", „бяз усякага запытаньня дазволена зьнішчажэньне праваслаўных цэркваў і магілак", „дапуск е" рэвіндыкацыю, г. ё. захапеньне р.-каталіцкім духавенствам пры помачы ўзлома замкоў праваслаўных цэркваў, пры гэтым вінавайцы пазасталісь бязкарнымі", „Царкоўная ўлада і ўся іерархія пастаўлена у залежнасьць ад добрай, ці злой волі ўладаў вышэйшай, ці ніжэйшай катэгорыі і г. д.

Пасьля ўсяго гэтага. мне здаецца, ня варта нават і ўспамінаць аб тым, як за помаччу аўтакефаліі нібы „паправілася і ўзмацнілася" праўнае палажэньне прав. царквы у Польшчы яе Сынодам і мітрапалітам. Проста страх адказнасьці перад вышэйшай царкоўнай уладай за здраду кананаў змусіў афіцыяльную іерархію аддацца і з сабою аддаць і ўсю царкву ў поўнае падпарадкаваньне сьвецкай ўладзе „вышэйшай ці ніжэйшай катэгорыі".

Дзіўна далей мітр. Дыанісый абоснуває кананічную неабходнасьць аўтокефаліі, ня заўважыўшы і ня хочучы заўважыць сваіх праціварэчыяў". Маючы на думцы, як здаецца, 34 ап. правіла, ёй цьвердзіць, што кананічныя падставы дазваляюць аўтокефальны устрой царквы **у кожнай дзяржаве"**. Я ужо разбіраў на старонках „За Свабоду" і „Утро" гэтае правіла. Там гаворыцца не аб „кожнай дзяржаве", а аб паасобных народах, маючы на ўвазе, як я выясьняў, народ сувэрэнны, самастойны. Калі памятаюць чытачы, то самыя варункі істнаваньня праваслаўных у Польшчы на палажэньні нацыянальнае і рэлігійнае меньшасьці устрымала нябожчыка патр. Ціхана ад наданьня Польшчы аўтокефаліі, абмежаваўшы яе незалежнасьць толькі аўтаноміяй. А мітр. Дыанісый па зусім незразумелым лёгічным законам, наадварот, лічыць, што аўтокефалія павінна „змоцніць" праўнае палажэньне царквы у Рэспубліцы з большасьцю насяленьня, належачага да другога вызнаньня. Гэты яго пастулят тым болей дзіўны, што ніжэй ён сам абмаўляе варункі праведзеньня аўтакефаліі: „паскольки даная дзяржава дае ёй (Царкве) наляжытую унутраную незалежнасьць".

Як дадзеная дзяржава дала гэту незазежнасьць прав. Царкве, мы бачымо з вышэй прыведзеных слоў мэморыялу, ня менш яскрава ілюстрыруючых гэтае „вольнае існаваньне", як і тое, як яно „змацняе" праўнае палажэньне царквы (Працяг будзе).

**Б. Багдановіч.**

# 10-гадоў таму назад.

(З успамінаў аб працы Маскоўскага сабору ў часе бальшавіцкага перавароту).

(працяг).

Ледзь гэн. Артамонаў паказаўся на вуліцы з даручэньнем ад Сабору перадаць ваюючым старанам яго адозву, як яго арыштаваў бальшавіцкі патруль і павёў няведама куды.

Гэты арэшт страшэнна занепакоіў сяброў Сабору. Некаторыя з іх пабеглі шукаць яго, але вярнуліся бяз рэзультату.

Увечары таго ж дня было вызначана ў будынку сэмінарыі паседжаньне „адзелу аб вышэйшым царкоўным упраўленьні". Падчас паседжаньня раптам неспадзявана вярнуўся гэн. Артамонаў. Нехта з сяброў сабору, першым заўважыўшы яго, распарадзіўся даць званок, якім звычайна зьбіралі ўсіх у салю на агульную нараду. Калі сябры Сабору

сайшліся, гэн. Артамонаў пачаў свой расказ.

Калі яго арэштавалі, ён ня страціў духу, але зажадаў ад патруля, каб яго адвялі ў галоўны камісарыят. Дарогай туды ў адным мейсцы яны папалі пад абстрэл. Амаль што ўвесь патруль разбегся; асталося толькі два, якія і давялі яго да камісарыяту. Там спаткалі яго зларадным сьмехам і крыкам: „ага! злавілі генерала“! Але-ж, калі ён выясьніў, што ён, зьяўляецца дэлегатам ад царкоўнага Сабору і што ён мусіць даручыць рэвалюцыйнаму камітэту адозву Сабору, яго прынялі з павагай. Скора падалі самаход і на ём адвязьлі Артамонава ў рэвалюцыйны камітэт. Там аднак ён ня мог нічога дабіцца. Адтуль адвязьлі яго ў Аб'яднаны Камітэт розных партыяў, які засядаў у Губэрнскай Земскай Управе і ўжо абгаварываў варункі міру паміж ваюючымі старанамі.

Сюды гэн. Артамонаў прыехаў ужо позна, бо ўмова міру была ўжо падпісана, але усё-ж ён пасьпеў падаць заяўленьне ад Сабору аб безумоўнай нетыкальнасьці пераможаных, і аб тым, каб пры здачы Крэмля была прэдугледжана магчымасьць зладзейства і грабяжоў, аб тым, каб пры здачы Крэмля былі прысутнымі прадстаўчікі Сабору, якія-б маглі запратаколіць тое становішча, у якім Крэмль знойдзецца ў момант здачы. Прасіў ён так-сама, каб Сабору была дазволена арганізаваць ахрану Крэмля, пакуль туды ня будуць прыведзены сьвежыя вайсковыя часьці, ня ўзрушаныя боям. Усё гэта яму было абяцана, пры чым сказана, што заўтра раніцай за ім прышлюць з камітэту.

Вестка аб спыненьні міжусобнай барацьбы дужа абрадавала сяброў сабору. Усе дзякавалі гэн. Артамонаву, а пасьля ізноў як і ў папярэдні дзень, як адзін чалавек адправіліся ў дамавую царкву, гдзе адслужылі малебен аб прымірэньні ваюючых (стральба вінтовак і пулямётаў яшчэ ня спынілася, апрача таго хоць і рэдка слышаліся і гарматы (пушкі). Сярод агульнага азлабленьня можна было яшчэ спадзевацца на усялякія выпадкі.

**3-га лістапада.** Ноч прайшла многа спакойней папярэдніх, хоць усё-ж такі стрэльба спынілася ня зусім і па мястох чуліся рэдкія гукі пушак, ці трэск кулямётаў.

Ня гледзячы на самыя моцныя абяцанкі за Артамонавым ня прыслалі. Відаць, што справа здачы Крэмля аказалася далёка ня так лёгкай. Відаць, што рэвалюцыйны камітэт сам часта ня меў сілы каб не дапусьціць розных эксцэсаў. Пакуль ішла вайна, дык ува ўсіх партыях, складаючых камітэт, была агульная мэта, якая аб'ядывала іх усіх, змушала працаваць дружна і заховываць дысцыпліну, а на мірным палажэньні пачаліся паміж іх спрэчкі, і ўсё рабілася ня так як думалі.

Не дачакаўшыся абяцанага запрашэньня, Артамонаў раніцай сам пайшоў да рэв. камітэту. Разам з ім пашла туды і камісія, вызначаная Саборам для прыёмкі Крамля на чале з мітрапалітам Ціханам (пасьля патрыярх). Рэшта сабору працавала ў розных камісіях. У канцы паседжаньня камісіі аб вышэйшым царкоўным управленьні, гдзе працаваў і я, звярнуліся мітрап. Ціхан з сябрамі прыёмачнай камісіі і гэн. Артамонаў. Астатні разсказываў, што яго сёньня прынялі ў рэв.-камітэце далёка не так ласкава як учора, хуччэй — з дасадай. Відаць, што і сам камітэт быў бязсільны, каб выпаўняць дадзеныя словы.

Ад імя прыёмачнай камісіі дакладываў о. протопрэсьвіцер Любімаў.

У Крэмль іх ня пусьцілі. Па наружнаму агляду відаць, што сьцены больш менш цэлы хоць і абабіты і абшарпаны гранатамі і кулямі. Уцалела таксама і Іверская капліца. За тое дужа пацярпелі „Нікольскія варота“. Образ сьв. Мікалая Чудатворца, які ўцалеў нават у 1812 г. пры ўзрыве Крэмля Напалеонам, разьбіты і згінуў *). Спаскія

---

*) Я і сам пасьля хадзіў да Крамля і глядзеў на гэтую браму. Ніякага абразу там ня было, і я угледзячы на зьбітую снарадамі сьцяну, з жалем думаў аб тым, што ніколі добра не заўважыў, які быў гэта абраз, а цяпер ужо і ніколі ня убачу.

Прайшло чатыры месяцы. 1-га мая 1918 г. бальшавікі у першы раз пры сваей уладзе сьвяткавалі „рабочае сьвята“. Крэмлеўскія сьцены і вежы задэкаравалі чырвоным кумачом, а Мікалаеўскую браму даўгім чырвоным штандарам. Вецер доўга трапаў гэты штандар, і вось раптам ен разляцеўся на кавалкі і зваліўся на зямлю, а з пад яго засіяў перад вачамі народу яснымі колярамі вымаляваны на штукатурцы абраз сьв. Мікалая. Так мне апавядалі тыя, хто гэта бачыў на уласныя вочы. Я прыехаў у Маскву праз тыдзень пасьля гэтага і хадзіў глядзець. Абраз сьвяціўся як быццам ен учора быў намаляваны. Што гэта старая ікона, відаць было толькі з таго, што кругом яе былі сплош усе сьцены зьбітыя снарадамі і кулямі мястамі як пілкай адпілена каля

вароты пацярпелі мала. Паводле слухаў дужа пашкадаваны снарадамі ўнутры Крэмля Усьпенскі Сабор, Чудаў манастыр і царква 12 апосталаў. Стаючы на пляцу перад Крэмлём, сябры камісіі былі сьведкамі таго, як забівалі прыкладамі некалькіх юнкераў выведзеных з Крамля!

Ніякай „прыемкі" Крамля ня было.

Увечары замест паседжаньня аддзелаў было прыватнае сабраньне, на якім сябры Сабору дзяліліся паміж сабой уражаньнямі астатніх днёў. Тут выясьнілася што мітрапаліт Ціхан усё-ж. такі падвечар быў у Крамлі. Былі там яшчэ Нестар Камчацкі і прат. Чэрняўскі. Яны сьцьвердзілі ўсе тое, што відзелі і другія адносна да зруйнаваньня крэмлеўскіх сабораў, і самі бачылі страшныя сьляды межусобнай барацьбы: сьляды крыві і вырваных мазгоў. На іх вачох разстралялі палкоўніка, начальніка абароны Крэмля, ня гледзючы на ўмовы дагавора. Відзелі так сама труп аднаго забітага юнкера.

Папалі ў Крэмль і сябры сабора сяляне, якія расказалі тое самае.

Падымалася была ізноў пытаньне аб тым, каб паслаць дэлегацыю да рэв. камітэту. Знайшліся і ахвотнікі ісьці туды (тыя-ж самыя архіерэі, сьвяшчэнікі і сяляне), але больш асьцярожныя людзі адгаварылі іх ад гэтага, тым больш што было ўжо позна (9 г.). Неўгамонны Артамонаў аднак дайшоў да Камітэту і зноў падаў яму заяву аб усіленьні ахраны Крамля і яго сьвятыняў. У сваей заяве ён адзначыў, што абраза рэлігійнага пачуцця народу (калі будзе зруйнаваны Крэмль) можа стаць прычынай узбурэньня народу і эксцэсаў, асабліва процi жыдоў.

Паскольку гэта Заява была зроблена Артамонавым без упаважненьня Сабору, яна вызвала доўгія спрэчкі.

(працяг будзе).

самага абраза і толькі у ніжні край рызы сьвяціцеля папалі дзьве ці тры кулі. Гэта было першае абнауленьне іконы, якія пасьля сталі так тады і там, у Расеі і нават і у нас.

## Зьезд выбаршчыкаў,

**скліканы Цэнтральным Аб'яднаным Беларускім Выбарным Камітэтам** (Блёку Нацыянальных Меньшасьцяў).

28-га сьнежня адбыўся ў Вільні у памяшчэньні Інстытута Беларускай Гаспадаркі і Культуры Беларускі З'езд, скліканы Беларускім Цэнтральным Аб'яднаным Выбарным Камітэтам. На кліч Камітэту з'ехалася з вёсак 110 прадстаўнікоў тых беларускіх групаў, якія ўваходзяць у Блёк нацыянальных меншасьцяў, больш 30-х — 3 цэнтраў (усяго сяброў з'езда 147) і больш як сорак гасьцей.

З'езд адчыніў старшыня Цэнтральнага Выбарнага Блёку Ф. Ярэміч. У прэзыдыум З'езда былі выбраны: В. Рагуля, Зінюк, Малец і сэкрэтаром Сьвістун. На з'езд гасьцямі з'явіліся як прадстаўнікі іншых меншасьцяў: Жыды і Літоўцы. Ад Жыдоў прывіталі з'езд доктар Выгодскі і адвакат Чэрніхаў, а ад Літоўцаў рэдактар Вялецкі.

Пасьля гэтага пачалася дзелавая работа.

Першым выступіў з дакладам аб працы у былым Сойме і Сэнаце Беларускага пасольскага клюбу, б. сэнатар В. Багдановіч. Далей ішоў даклад Ф. Ярэміча аб стварэньні Блёку Нацыянальных Меншасьцяў. Сябры з'езду з вялікай увагай выслухалі абыдвы даклады. Пасьля кароткай дыскусыі аднагалосна прыняты былі рэзалюцыі: 1) падзяка былым паслом і сэнатарам за іх працу і 2) адабрэньне ідэе Блёка Нац. Меньшасьцяў. У прамовах дэлегаты з мест часта і дужа горача заклікалі да аб'еднаньня з блёкам усіх іншых беларускіх групаў.

Пасьля абедзенага перарыва выслуханы быў праект плятформы, на якой зьдзейсьнілася аб'яднаньне беларускіх партыяў у блёку.

Дакладывалі яе В. Рагуля і п. Каруза.

Плятформа была прынята амаль што ня бяз папravак аднагалосна. Нарэшце выступіў былы сябра клюбу рабоча-сялянскай „Грамады", ўвашоўшы у Блёк як бязпартыйны Ю. Сабалеўскі які ра-

біў даклад аб адносінах Блёку да іншых партыяў.

Падчас яго прамовы адзін з прысутных гасцей назваў яго здраднікам Грамады. П. Сабалеўскі спакойна выслухаў гэты закід і пасьля даклада адказаў на яго гарачай прамовай. Ён паказаў, што працаваў шчыра з „Грамадай" дагэтых пор, пакуль думаў, што яна ідзе па шляху нацыянальнага і сацыяльнага адраджэньня беларускага народу, а калі з вядомай справы б. п. Ваяводзкага і іншых пераканаўся, што увайсей гэтай акцыі кіруе нейкая іншая злая воля, якая творыць розныя опыты над жывым целам беларускага народа, якая наўмысьні справакавала і кінула у турму лепшых яго прыяцеляў, пакутуючых цяпер у-ва Вронках, ён ня мог ня выйсьці адтуль, бо здрадай беларускаму народу было б там аставацца і там працаваць таму, у каго адчыніліся вочы на гэтую справу.

У канцы з'езда прыняты быў склад сяброў Цэнтральнага выбарчага камітэта.

З'езд акончыўся сьпяваньнем гімна.

Рэдка можна была-б спаткаць больш дружную працу і больш нацыянальны пад'ём, чым той, які панаваў на гэтым з'езьдзе. Пасьля яго было відаць, што пасьпех Блёку сярод беларускіх масаў гваранціаваны.

## Царкоўная хроніка.

27 по 30 сьнежня ў Вільні ў памешканьні Духоўнае Кансысторыі адбыўся зьезд благачынных Віленскае эпархіі, на якім галаўным чынам разглядаўся буджэт епархіальных выдаткаў, утрыманьне кансысторыі, архіерэя і гэтак далей.

Патрэбна адзначыць, што гэты зьезд робіцца толькі для формы, бо цяперашняе епархіяльнае начальства ніколі з ім ня лічылася і ня лічыцца. Даволі адзначыць, што ў прошлым годзе на зьездзе ў Вільні была, напрыклад, пастаноўлена ня прадаваць быўшага архіерейскага дому езуітам. Аднак епархіальнае ўпраўленьне ня захацела падпарадкавацца гэтай пастанове і прадала яго, як кажуць, за 11—12 тысячаў даляраў і нават не знайшло патрэбным паведаміць аб гэтым зьезд. А. а. благачыныя даведаліс аб прадажы з прыватных размоваў пасьля зьезду.

Прашлагодняе епархіальне сабраньне пастанавіла адчыніць епархіальны сьвечны склад і даручыла выканаць гэта выбарнай для гэтае мэты камісіі. Вышэйшая ўлада гэтую пастанову адмяніла і дуручыла склад прыватнай духоўнай асобе, якая брала даходы з гэтага на сваю карысьць і мітрапалічага двору.

Гэтакія адносіны вышэйшай улады да зьезду зьяўляюцца толькі зьдзекам над ім, бо які сэнс сьцягаць з далёка айцоў, мучыць іх некалькі дзён, каб пасьля выканаць як раз наадварот таму, што яны пастанавілі.

Калі хто скарыстаў са зьезду, дык гэта ведамы ўсім Філіп Марозаў, які прапагадываў між бацюшкамі нядаўна ўспульна з мітрапалітам і К-о створаную ім палітычную партыю, фактычным верхаводам якой ён зьяўляецца. Марозаў, па чуткам, аж надта падгаварываў бацюшак, каб яны ў сваіх прыходах вярбавалі сяброў у партыю і галасавалі пры выбарах за мітрапалічы сьпісак. Але бацюшкі, як гаворыць, аднясліся да гэтага дужа і інэртна, ставілі „лідэру" пытаньня: „А калі за гэтае нас возьмуць ў перадзелку, хто тагды нас будзе бараніць?", на што Марозаў ня мог нічога адказаць.

Так расьцвятаюць ў нашым царкоўным жыцьці „саборныя падставы".

### Таксама дзеяч!

Газэта, „За Свабоду", паведляе аб нядаўна адбыўшымся царкоўным зьездзе ў Пінску, у якім хаця і ў надта малай прапорцыі прыймалі ўдзел і міране. З прамоваў на зьездзе газэта адмечае даклад б. сэнатара Назарэўскага. На жаль мы павінны аднатаваць, што гэты б. сэнатар выгаласіў там ня сваю прамову, а даклад створаны ў нашай рэдакцыі, якім ён здабываў сабе папулярызацыю сярод веруючых на карысьць

створанага пры Варшаўскай мітраполіі ўрадавага „Праваслаўнага Аб'яднаньня", у якое пасля і пераляцеў.

**Рэвізыя будаўлянага камітэту ў Баранавічах.**

Газэты паведамляюць, што з Навагрудка прыехала да Баранавіч Камісія для рэвізыі дзеяльнасьці камітэту па будове царквы ў Баранавічах, на чале якой стаіць б. сэнатар Назарэўскі. Чым выклікана і чым скончыцца рэвізыя, покуль што ня ведама.

## Палітычная хроніка.

— **Польшча і Малая Антанта.** У Югаслаўскіх палітычных кругох сьцьвярджаюць, што дзяржавы Малой Антанты на працягу апошніх часоў вядуць перагаворы з Польшчай аб яе ўступленьні у Малую Антанту.

— **Жыдоўскі блёк і блёк нацыянальных меньшасьцяў.** Жыдоўская газэта „Хайнт" паведамляе, што цэнтральнае бюро жыдоўскага блёку, якое уходзіць у блёк нацыянальных меньшасьцяў, атрымлівае з ўсіх канцоў паведамленьня аб прыемных адносінах жыдоў да блёку нацыянальных меньшасьцяў.

— **Луначарскі полпрэд у Рыме.** Як паведамляе прэса Луначарскі атрымаў назначэньне полпрэдам у Рым на мейсца Каменева.

— **Савецкі надзорца у Лізе Нацыяў.** Швайцарскі Урад абсуджаў пытаньне аб савецкім надзорцы у Лідзе Нацыяў. У урадовых колах далі зразумець, што калі Саветы камандзіруюць асабу ня меючую афіцыяльнага характэру для інфармацый аб дзеяльнасьці Лігі Нацыяў, дык швайцарскі Урад проціў гэтага нічога мець ня будзе, хоць ня можа даць яму дыплёматычных прывілегіяў.

— **Франка-Італійскае збліжэньне.** Мусоліні заявіў, што незадоўга паміж Францыяй і Італіяй распачнуцца перагаворы, а пасьля дыпляматычнай падгатоўкі адбудзецца яго сустрэча з Брыянам.

— **Кітайскія падзеі.** У сярэдніх чыслах сьнежня у Кантоні камуністы падгатавілі камуністычны пераварот. Як відаць, распачалася барацьба, якая акончылася перамогай камуністаў, каторыя захапілі места і стварылі там свой урад. Аднак панавалі яны там ня доўга. Ужо 13 сьнежня антыкамуністычнае войска заняла Кантон, пасьля чаго у будынку савецкага консульства была зроблена рэвізыя і былі арэштованы усе знаходзіўшыяся там асобы. Савецкае консульства і торгпрэдства атрымалі прапазыцыю пакінуць места.

— **Дагавор аб сусьветным спакою.** Амэрыканскі мін. замежных спраў даручыў французкаму паслу Клодзелю амэрыканскі праэкт сусьветнага разбраеньня.

— **Адстаўка Латвійскага Ураду.** 13 сьнежня латвійскі Урад падаў прозьбу аб дэмісыі, каторую прыняў прэзыдэнт. Палажэньне ураду была зрушана з мамэнту заключэньня савецка-латвійскага дагавору.

### Абсьледаваньне пагранічча.

Незалежна ад памыснага вырашэньня літоўска-польскага канфлікту, Рада Лігі Народаў пастанавіля абсьледаваць палажэньне на польска-літоўскай граніцы. Абсьледаваньне пачнецца з двух бакоў: асобная вайсковая камісія з боку Літвы, а асобная — з боку Польшчы. Кожная камісія мае права спраўдзіць сытуацыю і на другім баку.

Відаць, Рада Лігі Народаў, ня вельмі верыць заявам Польскага і Літоўскага ўрадаў аб іх „пакаёвасьці".

### Парцэляцыя „Камінтэрну".

Шляхам за падзелам у расейскай камуністычнай партыі на 3 асобныя варожыя адна другой групы, адбываецца падзел і ў замежных камуністычных партыях. З пакаяннае пісулькі Кменева, Зіноўева і іх аднадумцаў відаць, што ў Нямеччыне, (найвялікшая партыя пась-

ля Расеі), камуністы таксама стварылі тры лагеры. У апазыцыі да „афіцыяльнага“ камунізму там стварылася прупа Маслава і Руф Фішар, а таксама Суварына і Гольца.

**Каля выбараў.**

23.XII.27. Віленскі Саюз жыдоўскіх дробных гандляроў пастанавіў прылучыцца да блёку нацыянальных меншасьцяў. У сувязі з гэтым Саюз праектуе склікаць у Вільню канфэрэнцыю ўсіх жыдоўскіх дробна-гандлярскіх арганізацыяў з ваяводзтваў: Віленскага, Навагрудзкага, Беластоцкага і Палескага — для агульнага аб'яднаньня.

—о—

# З беларускага жыцьця.

**Да ведама актыўных працаўнікоў на вёсцы.**

У сувязі з наступаючымі выбарамі ў Сойм і Сэнат абавязкам кожнага сьвядомага Беларуса павінна быць праца ў беларускіх выбарных камітэтах.

Беларускі Цэнтральны Аб'яднаны Выбарны Камітэт приступіў да арганізацыі акружных, павятовых, валасных і іншых камітэтаў. Каб праца паасобных працаўнікоў на вёсцы была больш арганізаванай і мэтнай, яны павінны весьці выбарную акцыю ў паразуменьні з Беларускімі Аб'яднанымі Выбарнымі Камітэтамі. У сувязі з гэтым Белар. Цэнтр. Выб. Камітэт адкрыў рэгістрацыю ўсіх актыўных беларускіх працаўнікоў на вёсцы, якія могуць прыняць цэйны ўдзел у выбарах.

Хто хоча зарэгістравацца ў Цэнтральным Выбарным Камітэце, павінен прыслаць у Камітэт пісьменную заяву, падаючы ў ёй:

1) прозьвішча і імя, 2) дакладны адрэс, 3) век і 4) прынадлежнасьць партыйную.

**Беларускі Цэнтральны Аб'яднаны Выбарны Камітэт, Вільня, Вострабрамская 8 1**

# НАША ПОШТА.

Сьвеце: Новік — Часопіс будзем высылаць далей. №5 высылаем дадаткова. Прадплату за убеглы тэрмін атрымалі.

Ново-Пагост: К. Кашовіч — Газету высылаем.

Жыровіцы: Жыровічанін — Стацьці можна прысылаць і у расейскай мове, як і розныя заметкі. Часопіс высылаецца бяз перарыва.



## ЗЬМЕСТ.



Рэдактар-выдавец: Л. Голад. Друк. ім. Ф. Скарыны, Людвісарская 1.